www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 74 (4223)**

19 верасня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ

## Адкуль столькі пыхі ў беларускіх генералаў?

Беларускія чыны ў пагонах зведваюць відавочны дыскамфорт ад беспрэцэдэнтнай увагі да супольных з Расіяй манеўраў "Захад-2017". І адгукаюцца на гэты, як яны кажуць, ажыятаж з кепска прыхаваным раздражненнем. Хоць тут няма чаго злавацца: калі наўпрост, то гаворка ідзе пра ваенныя гульні з краінай-агрэсарам, адсюль і выбух цікаўнасці, і трывога, і фобіі, і нават абурэнне. Гэта такі паслякрымскі сіндром.

Між тым беларускі міністр абароны Андрэй Раўкоў па тэлевізары кажа, што зашмат з'явілася ў нас аналітыкаў, з якіх многія мо і ў войску не служылі. І што на манеўры запрасілі нават тых, каго мо і не варта было (чытай: якой толькі шушары не панаехала).

Раней начальнік Генштаба генерал Алег Белаконеў з пыхай адкінуў ідэю грамадскага назірання за манеўрамі "Захад-2017". З той аргументацыяй, што гэта справа адмыслоўцаў: я ж не пайду, маўляў, даваць парады хірургам, якія робяць аперацыю на сэрцы.

Выказванні беларускіх чыноў у пагонах патыхаюць каставым снабізмам, пагардай да "цывільных дылетантаў". Няма чаго, маўляў, ім лезці ў нашы прафесійныя справы.

Можна згадаць яшчэ і начальніка ўпраўлення інфармацыі, прэс-сакратара Мінабароны палкоўніка Уладзіміра Макарава, які праславіўся выпадамі супраць апазіцыі ды тым, што назваў праціўнікаў парадаў (дакладней – таго, што танкі псуюць асфальт) ідэйнымі нашчадкамі гаўляйтара Кубэ.

Відаць, палкоўнік не разумее простай рэчы: што войска ўтрымліваецца на падаткі цывільных грамадзян. І таму мусіць быць пад кантролем грамадства. І што ўвогуле ў грамадстве могуць быць самыя розныя погляды, і гэта нармальна, што цывільныя строем не ходзяць і адну страявую песню не спяваюць.

Высокапастаўленых сілавікоў з іншых ведамстваў таксама раздражняюць спробы грамадскасці, прэсы пад вострым вуглом глядзець на іх ведамасныя справы, паказваць "шкілеты ў шафе". Міністр унутраных спраў генерал Ігар Шуневіч неяк назваў выкрывальныя сюжэты прэсы, блогераў ды іншай інтэрнэт-публікі інфармацыйнай вайной супраць свайго ведамства. Хоць трымаць уладу ў тонусе праз крытыку – нармальная функцыя нармальнай прэсы. Проста ў нас чыноўнікі прывыклі да казённай прэсы, якая абслугоўвае іх у стылі "чего изволите", і таму ўспрымаюць незалежныя медыі як варожыя рупары.

Зрэшты, ці варта дзівіцца, што чынавенства ў пагонах дэманструе такую пыху, калі ў нас уся палітычная сістэма збудавана так, што любы начальнік трымае справаздачу толькі перад вышэйшым начальнікам, але не перад грамадскасцю, не перад народам.

Аднак жа калі сілавыя структуры бескантрольныя, калі зверху ім даюць свабоду рук, то пачынаецца гвалт, "беспредел". Ці памятаеце вы хоць адзін выпадак, калі б міліцыянта пакаралі за тое, што збіў апазіцыянера, грамадзянскага актывіста, журналіста? Наверсе выгароджваюць такіх служак, бо яны ж абараняюць рэжым. Пакарай аднаго – дык у крытычны момант многія могуць гэту ўладу "здаць".

Але беспакаранасць вядзе да маральнага разлажэння. Многія міліцыянты бессаромна хлусяць, выступаючы сведкамі ў судах. Начальнікі ў пагонах выдатна ведаюць: за жорсткія разгоны ды затрыманні ім па фуражцы не дадуць, а вось за "мяккацеласць" можна і пацярпець. Так выхоўваецца жорсткасць, цынізм, псіхалогія слуг сістэмы, а не народа, пагарда да тых, хто думае іначай, чым важныя шышкі ў вялікіх кабінетах.

У дэмакратычных краінах грамадскі кантроль над сілавікамі даўно стаў нормай. Страшны сон для беларускіх генералаў: у дзяржавах НАТО цывільныя і (жах!) нават жанчыны становяцца міністрамі абароны. Напрыклад, такую пасаду ў Германіі з 2013 года займае Урсула фон дэр Ляен. Раней яна ўзначальвала Міністэрства працы і грамадскіх спраў, яшчэ раней – ведамства па справах сям'і. І немцаў не бянтэжыць, што адной з самых магутных армій на кантыненце кіруе прадстаўніца "слабага полу", у якой сем дзяцей і якая нейкі час працавала нават доктарам у гінекалагічным аддзяленні.

Менавіта адукаваная, дасведчаная цывільная асоба, бадай, і можа найболей цвяроза, адэкватна ацэньваць розныя гульні са зброяй ды іх наступствы. Бо ў кадравых вайскоўцаў на гэтай глебе адбываецца пэўная прафесійная дэфармацыя.

Дарэчы, паралель генерала Белаконева між вайскоўцамі ды хірургамі не вытрымлівае крытыкі. У хірурга – скальпель, і яго сапраўды не трэба штурхаць пад руку. А вось у генералаў – страшэнная зброя (у некаторых нават ядзерная). І без кантролю генералы (якія, у сваю чаргу, з'яўляюцца прафанамі ў палітыцы, дыпламатыі) могуць нарабіць (і ў сваёй краіне, і на міжнароднай арэне) такіх спраў, што потым не разграбеш.

Цікава, ці чулі беларускія служакі афарызм: вайна занадта сур'ёзная рэч, каб давяраць яе генералам. Падаецца, што не.





**ДЗЕ ГЭТА БАЧАНА...**

## Аляксандр Анісімаў з чароўнай музыкай і каньяком у закуточку

Не, пра такую падзею нельга не сказаць на старонках "Народнай Волі".

У мінулую пятніцу Беларуская дзяржаўная філармонія адкрыла чарговы сезон. Юбілейны! Галоўная канцэртная зала святкуе 80-годдзе.

З цудоўнай праграмай выступіў акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава. Іншы раз здавалася, што маэстра ў творчым запале вось-вось адарвецца да свайго дырыжорскага подыума і ўзляціць у нябёсы. А як віртуозна выконвалі Рахманінава ўсе яго музыканты!

Адкрыццё сезона ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі – заўсёды свята. А да свята ўсе рыхтуюцца загадзя. На гэты раз, праўда, тых, хто прыйшоў на канцэрт, філарманічнае кафэ сустрэла апячатанымі дзвярыма. Атрымалася не па-святочнаму. Толькі ў антракце можна было ўбачыць у закуточку фае столік з некалькімі бутэлькамі напояў і маленькімі шакаладнымі пліткамі.

Не можам мы ў бочку з мёдам не запусціць лыжку дзёгцю.

**Антось ГАРЦУЕЎ.**

**ДАТА**

## ...І стала «Пагоня» дзяржаўным гербам Беларусі

*19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет прыняў закон, паводле якога дзяржаўным гербам Беларусі «з'яўляецца старажытны беларускі герб «Пагоня», які ўяўляе сабой выяву размешчанага на чырвоным фоне конніка белага колеру, скіраванага ў левы бок, з узнятым мячом і шчытом з крыжам».*

*На наступныя амаль чатыры гады старажытны сімвал беларускіх зямель стаў афіцыйным дзяржаўным гербам.*

У парадак дня вераснёўскай шостай пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета было ўключана пытанне аб дзяржаўнай сімволіцы. Калі аб гэтым стала вядома, сябры БНФ разгарнулі маштабную тлумачальна-агітацыйную кампанію сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савета, большасць з якіх былі старымі наменклатуршчыкамі і ўпэўненымі камуністамі.

**(Працяг на 3-й стар.)**



**СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ**

## У Дрэтуні – спакойнае жыццё!

*Карэспандэнт «Народнай Волі» пабываў у населеных пунктах Віцебскай вобласці, паблізу якіх праходзяць ваенныя манеўры «Захад-2017».*

### «Стрэлы чуваць, але нячаста»

Як вядома, сумесныя вучэнні расійска-беларускіх войскаў пачаліся на нашай тэрыторыі 14 верасня. Штаб тэрытарыяльнай абароны размясціўся ў Глыбокім, дзе з пачаткам вучэнняў была ўведзена каменданцкая гадзіна. Мясцовым жыхарам не рэкамендавалася без асаблівай патрэбы і дакументаў пакідаць свае дамы з 22 да 6 гадзін.

Вуліцы горада некалькі дзён патрулявалі вайскоўцы і супрацоўнікі міліцыі, якія правяралі ў «падазроных» асоб пашпарты. Журналістам было забаронена здымаць адміністрацыйныя будынкі. На выездзе з горада ўсталявалі кантрольна-прапускныя пункты.

З Глыбокага накіроўваемся ў вёску Дрэтунь, што ў 45 кіламетрах ад Полацка. Да расійскай мяжы адсюль менш за гадзіну язды на машыне. У Дрэтуні ў савецкі час знаходзіўся адзін з найбуйнейшых палігонаў.

Вайсковыя вучэнні мінулага стагоддзя некаторыя мясцовыя жыхары памятаюць і зараз.

– *У хатах вокны трашчалі, калі вучэнні «Захад-81» праходзілі,* – распавядае пенсіянерка з Дрэтуні. – *Цяпер не так: стрэлы чуваць, але нячаста.*

Да вучэнняў на нашай тэрыторыі вяскоўцы ставяцца амаль абыякава. Адзінае, што замінае некаторым мясцовым жыхарам, абмежаванне на наведванне лесу паблізу палігона. А так людзей хвалююць звычайныя жыццёвыя праблемы.

– *Святло можа некалькі разоў за дзень знікаць,* – кажуць жанчыны ў чарзе ў аўталаўку. – *Працы для многіх няма, заробкі капеечныя: у лясгасе па 200 рублёў плацяць. У Мінск паедзеце – Лукашэнку перадайце, як мы тут жывём...*



Пакуль размаўляем з мясцовымі, з дому выходзіць жанчына, якой прыезд журналістаў у вёску вельмі не спадабаўся.

– *Што вы ім усё расказваеце!* – эмацыйна звярнулася жыхарка Дрэтуні да аднавяскоўцаў. – *Хто яны такія? Паслухайце, як размаўляюць! Яны ж не рускія!*

Шчыра кажучы, з такой нервовай рэакцыяй на беларускую мову ў вёсцы мне давялося сутыкнуцца ўпершыню.

Сёння ў Дрэтуні пражывае каля 150 чалавек. У тое, што расійскія вайскоўцы могуць застацца на нашай тэрыторыі, адны мясцовыя жыхары не вераць, а іншыя не бачаць у гэтым нічога дрэннага.

Паводле слоў галоўнага ляснічага **Аляксандра Дуброўскага**, ніякіх праблем з-за вучэнняў у вёсцы няма.

– *Сёння цяжкасцяў для нас няма,* – тлумачыць Аляксандр Пятровіч. – *Працуем у звычайным рэжыме. З ваеннымі мы склалі спіс машын і кіроўцаў, якія могуць перасоўвацца па лесе для выканання гаспадарчых работ.*

**– Кажуць, што зусім маленькія зарплаты ў лясгасе...**

– Сярэдні заробак складае каля 485 рублёў па прадпрыемстве. 200 рублёў можа атрымаць той, хто прагуляў, хто не выканаў норму выпрацоўкі. У такім выпадку нават менш за дзвесце можна атрымаць…

Удакладняем у мясцовых кірунак на палігон, які ў пяці кіламетрах ад вёскі. Па лясной дарозе даходзім да дзіўнага КПП: самаробны драўляны шлагбаум, побач з якім дзяжураць салдаты з ваеннай камендатуры. Паводле слоў вайскоўцаў, далейшы рух на палігон забаронены, а ім у асноўным даводзіцца займацца грыбнікамі, якія ігнаруюць забарону на наведванне лесу.

### Праверка дакументаў

Яшчэ адным месцам правядзення вучэнняў у Віцебскай вобласці стаў палігон недалёка ад пасёлка Заслонава пад Лепелем. На дзвярах крамы вісіць аб'ява аб ходзе ваенных вучэнняў. На прыступках сустракаемся з беларускімі ваеннымі: двума салдатамі тэрміновай службы і афіцэрам.

Але пагаварыць з імі не атрымліваецца: афіцэр забараняе салдатам спыняцца, а сам ад усіх каментарыяў адмаўляецца.




Паводле слоў жыхароў ваеннага гарадка, у іх таксама дзейнічае абмежаванне на наведванне лесу, часта чуваць стрэлы. Расійскіх вайскоўцаў на тэрыторыі пасёлка ніхто з мясцовых не сустракаў.

Недалёка ад жылых дамоў знаходзіцца КПП перад палігонам. Некалькі вайскоўцаў спыняюць журналістаў і правяраюць дакументы.

– *Вы не акрэдытаваны для працы,* – кажа адзін з афіцэраў. – *Праход і знаходжанне паблізу палігона забаронены.*

На зваротным шляху атрымліваецца паразмаўляць з двума вайскоўцамі. Паводле іх слоў, расійскіх салдат пад Лепелем няма. Па дарозе да машыны заўважаем за сабой суправаджэнне. Вайскоўцы «выпраўляюць» нас да аўтамабіля, а таксама назіраюць, пакуль мы размаўляем з мясцовымі жыхарамі.

Праз некаторы час да нас пад'язджаюць два вайсковыя «ўазікі» з супрацоўнікамі АМАП, якія перапісваюць пашпартныя дадзеныя. Праз некалькі хвілін нас адпускаюць, але на выездзе з мястэчка машыну з журналістамі блакуюць супрацоўнікі ДАІ.

Як аказалася, гэта праверка дакументаў нашага кіроўцы. Удакладніўшы, дзе мы працуем, супрацоўнікі міліцыі нас адпускаюць.

– *Можам вас праводзіць,* – нават прапанаваў адзін з міліцыянтаў.

Ад суправаджэння адмаўляемся і самастойна пакідаем тэрыторыю ваеннага гарадка.

Расійска-беларускія вучэнні працягнуцца на нашай тэрыторыі да 20 верасня. Ваенныя манеўры праходзяць на палігонах у розных абласцях краіны. Паводле афіцыйных заяў расійскія войскі павінны пакінуць Беларусь да 30 верасня.

**Раман ВАСЮКОВІЧ**

*Фота аўтара.*

**АКТУАЛИИ**

Светлана КАЛИНКИНА

## Плевок в лицо

*«На протяжении всей трудовой деятельности Вы были тесно связаны со спортом высших достижений и внесли огромный вклад в развитие вольной борьбы. Вы прославили нашу Родину на международной арене, став трехкратным олимпийским чемпионом...»*

Такими словами Александр Лукашенко поздравил нашего легендарного борца Александра Медведя с 80-летием, признал заслуги, поблагодарил, пожелал... Но, несмотря на это юбилейное восславление, теперь мы точно знаем, как благодарит Родина тех, кто ее прославляет.

В 2001 году Медведь был признан лучшим спортсменом Беларуси XX века. В 2004 году на церемонии открытия Олимпийских игр в Афинах нес флаг Беларуси. В 2005-м был признан лучшим борцом вольного стиля в истории спорта и введен в Зал славы Международной федерации объединенных стилей борьбы. Семикратный чемпион мира, трехкратный олимпийский чемпион. За активную общественную деятельность и выдающиеся достижения в спорте награжден двумя орденами «Знак Почета» (1964, 1969), орденом Трудового Красного Знамени (1970), двумя орденами Ленина (1962, 1964).

Таких, как Медведь, в нашей стране не тысячи и не сотни. В каком-то смысле, он вообще один такой, уникальный. Как же оценила Родина все эти заслуги?

Цитирую отрывок «юбилейного интервью» Александра Медведя.

*«– У меня сын Алексей также занимался борьбой, стал чемпионом мира и... отказался заниматься дальше: отец, мол, таким, как ты, не стану, а фамилию портить не стоит (смеется). А подумать: какая разница, что семь раз чемпион, три Олимпиады, – а пенсия одна и та же...*

***– Неужели правда то, что мне говорили?***

*– Да – официально, как у всех, – 320 новыми. Нормально – на лекарства, хотя и не все, хватает. Писал наверх заявления – молчат. Но в юбилей не будем об этом...»*

А вот давайте будем говорить! Потому что то, что у нас происходит с пенсиями, это позор страны.

…В здании, где располагается редакция «Народной Воли», когда-то работал охранник Валера. Вернее, не работал, а подрабатывал. В обычной жизни он был тренером наших девушек-борчих. Так вот Валера рассказывал: «Всех девушек устраиваем прапорщиками в МВД – на склад какой-нибудь, ручки-бумагу считать. Зато эти девочки, даже не завоевав ни одной хиленькой медали, когда выйдут на пенсию, будут получать больше, чем самый распрославленный Медведь. Вот такая у нас страна! Пишем-пишем про это во все инстанции – никакого толку».

Был этот разговор лет семь назад. Валера потом погиб под колесами авто. А ситуация не изменилась ни на йоту. Так что «чудеса» с пенсиями – это не издержки законодательства, не недосмотр, не ошибки исполнителей. Это уже позор страны.

И дело тут не только в Александре Медведе – он уникальный, он достоин самой высокой пенсии, даже без всякого закона и вопреки любым правилам.

Дело в самом законе, который абсурден и несправедлив, который принуждает людей хитрить, утаивать, воровать, чтобы обеспечить собственную старость.

Знаю бизнесмена, который уплачивал налогов больше тысячи долларов в месяц. Пенсию ему насчитали чуть больше 300 рублей – 170 долларов.

«Ты что, дурак?» – говорят ему теперь все. Признает, что дурак. Говорит: «Думал, пока мне на пенсию, что-то изменится».

Знаю бывших директоров заводов, которые получают пенсию такую же, как их водители и секретарши. Но директор – это ответственность за сотни и тысячи человек, это ненормированный рабочий день, это постоянная угроза «уголовки» над головой, это ни сна ни покоя. Ну не может у него пенсия быть такой же, как у инспектора отдела кадров, которая пришла к девяти, подвигала папки с бумажки, попила чайку и ушла в 18.00, заботясь только об ужине для мужа.

Знаю талантливейшего, уникального врача, с учеными степенями, званиями и признанным именем. Недолгое время он был сенатором. Оказалось, что все степени, звания, сложнейшие операции «стоят» меньше, чем титул сенатора. Хотя в Совете Республики он, по большому счету, НИЧЕГО не делал, появлялся там всего пару раз в месяц…

Примеров столько, что можно перечислять и перечислять. Но неоспоримым фактом является то, что (за исключением небольшой прослойки избранных и приближенных к власти) КАЖДЫЙ в нашей стране рано или поздно сталкивается с величайшей несправедливостью – он получает первую пенсию, недоуменно смотрит на цифры и не понимает, за что Родина, на которую он работал всю жизнь, под старость плюнула ему в лицо.

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

## Ці выпусцяць Ігара Комліка на волю?

*Сёння Мінскі гарадскі суд вынясе на разгляд скаргу бухгалтара прафсаюза РЭП на рашэнне суда Партызанскага раёна.*

Раней Комлік абскардзіў меру стрымання, аднак яго ўсё адно пакінулі пад вартай. Суддзя Партызанскага раёна вырашыла, што мера выбрана законна і абгрунтавана.

Ён праходзіць па "справе прафсаюзаў" і знаходзіцца пад вартай ужо больш за месяц – з 2 жніўня.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Хождение за тридевять земель

В ходе официального визита Лукашенко в Индию достигнут ряд договоренностей с правительством этой страны. Подписаны программа сотрудничества между правительствами в сфере культуры, меморандум о взаимопонимании между Министерством образования Беларуси и Министерством повышения квалификации и предпринимательства Индии, меморандум между Белорусским государственным концерном по нефти и химии и Министерством нефти и природного газа Индии. Кроме того, подписанными меморандумами со своими индийскими партнерами обменялись руководители Белорусской калийной компании и «Белзарубежстроя». Соглашение о сотрудничестве заключено с Минским тракторным заводом, стороны парафировали договор между Беларусью и Индией об инвестициях. Подписан и ряд других документов…

Вроде бы достаточно солидно. Но остается вопрос: какова будет конкретика, о которой говорил Лукашенко? Сами понимаете, меморандумы – это лишь своего рода протоколы о намерениях. Опять прозвучало круглое число – довести товарооборот с Индией до 1 млрд долларов. Когда белорусский лидер посещает более скромные по масштабу государства, из его уст звучит пожелание довести взаимный товарооборот до полумиллиарда долларов. Да, хорошо бы, чтобы Индия покупала больше наших калийных удобрений, согласилась на создание сборочных производств белорусских тракторов. Беларуси тоже было бы неплохо получать из Индии больше продуктов фармацевтики, изделий легкой промышленности, где она преуспела, и, чтобы она поделилась с нами кой-какими технологиями. Индия с населением около 1,2 миллиарда человек выходит со своим ВВП на третью позицию в мире и обладает огромным рынком.

Не знаю, относит ли руководство Беларуси Индию к странам «дальней дуги» (а на это экспортное направление должна приходиться, по задумке, треть нашего экспорта), но дела здесь особо не движутся. За пять месяцев товарооборот с Индией сократился на 1,5%. Две трети нашего экспорта составляют калийные удобрения. Основу индийского экспорта в Беларусь составляют медикаменты. С участием индийского капитала у нас реализуются проекты по строительству фармацевтических предприятий. Но взаимный товарооборот, конечно, явно недостаточный. Допускать Индию к участию в добыче хлоркалия, от чего она не отказалась бы, белорусские власти не захотят.

Правительство Беларуси с оптимизмом расценивает будущие взаимоотношения с Индией, как, впрочем, и бодро констатирует 20%-ный скачок объемов внешней торговли страны. Однако более детальный анализ этого успеха показывает, что не надо обольщаться. До уровня 2012 года, когда объем внешней торговли достигал 92 миллиардов долларов, еще очень и очень далеко. Если экстраполировать нынешние экспортные показатели, то хорошо, если мы выйдем в этом году на 58–60 миллиардов. Основной фактор сегодняшнего роста белорусского экспорта – ценовой. Это рост мировых цен на сырьевые товары, которые составляют основу наших внешних поставок. Среди них нефть и нефтепродукты, удобрения, металлы, мясо, молоко, то есть товары с невысокой долей добавленной стоимости в цене. Они занимают 59% нашей экспортной корзины. Удельный вес так называемых капитальных, технологических товаров в экспорте Беларуси весьма невысок и за последние годы сократился с 28% до 15%. Тогда как в экспорте Венгрии, Чехии, Польши они составляют более половины. Причем существенно нарастить экспорт своих традиционно сырьевых товаров нереформированная белорусская экономика вряд ли сможет.

Беларусь по-прежнему непозволительно сильно в своем внешнем товарообороте зависит от российского рынка. На его долю приходится 51,3%. На товарооборот со странами Евросоюза приходится лишь 22,7%, на прочие государства – 26%, а на пресловутую «дальнюю дугу» – и того меньше. Главный торговый партнер Беларуси все чаще использует ее одностороннюю экспортно-импортную ориентацию в своих целях. Россельхознадзор не устает попеременно «наезжать» на белорусские предприятия, поставляющие восточной соседке мясо и молоко. Путин не так давно приказал «запакетировать» поставки российской нефти на наши НПЗ, с тем чтобы их нефтепродукты шли через российские порты в обход налаженной логистики с портами Литвы и Латвии. Иначе как политическое давление на союзника это не расценишь. Концерну «Белхимпром» постоянно нужно прислушиваться к тому, что там сказал российский вице-премьер Дворкович об объемах поставки нефти на наши НПЗ в очередном квартале. То их уменьшат, то увеличат. В первом квартале было поставлено 4 миллиона тонн, во втором – 5 миллионов, на третий запланировано 4,5 миллиона тонн. Если исходить из запланированных ранее годовых поставок в 24 миллиона тонн, то в четвертом квартале необходимо поставить 10,5 миллиона тонн сырой нефти. Каким путем? Пропускная способность нефтепроводов ограничена. Железной дорогой? Мало того, что «колесная» нефть существенно дороже, хватит ли цистерн? И такая дребедень – целый день, то есть постоянно.

Следовательно, думать, что экспорт вытащит белорусскую экономику из кризиса, явно преждевременно. Он по-прежнему остается недифференцированным, однобоким, сырьевым. И тут у нас по большому счету и конь не валялся. Китай, Индия – это хорошо. Но не полезнее ли правительству кинуть взор на ближайших соседей – Польшу, Словакию, Чехию, Литву. У них есть многое из того, что можно купить, надо подумать и о том, что им предложить и чему у них можно поучиться. И необязательно мотаться за тридевять земель. Простые белорусы это давно уже просекли.

РЕЗОНАНСНАЯ ТЕМА

## Николай СТАРОВОЙТОВ: «Бахтина не смогла ответить на элементарные вопросы!»

*На днях Министерство юстиции вынесло окончательное решение по результатам внеочередной аттестации адвоката Анны Бахтиной: ее адвокатская лицензия аннулируется с 27 сентября. Как уже сообщала «Народная Воля», квалификационная комиссия решила, что Бахтина не может выполнять свои профессиональные обязанности из-за недостаточной квалификации. История получила большой резонанс.*

*По просьбе «Народной Воли» ситуацию с аттестацией известного адвоката прокомментировал заместитель министра юстиции Николай Старовойтов. Кстати, именно Старовойтов возглавляет квалификационную комиссию по вопросам адвокатской деятельности в Республике Беларусь.*

**– Николай Михайлович, адвокаты, которых лишили лицензии, как-то могут обжаловать решение Минюста?**

– Конечно, могут. Они имеют право обжаловать решение квалификационной комиссии в суде.

**– И вы думаете, что это реально?**

– Ну а почему нет? Это не первый случай. Закон разрешает оспаривать, иски подают.

**– Вы наверняка следите за выступлениями Анны Бахтиной в прессе. Она считает, что нарушения, которые ей поставили в вину, не имеют отношения к ее адвокатской квалификации. Это, скорее, помарки делопроизводства.**

– Когда квалификационная комиссия проводит очередную аттестацию, она имеет право проверить компетентность адвоката, его знания и профессионализм. В данном случае комиссия пришла к выводу, что Анна Бахтина непрофессионально оказывает юридическую помощь и не компетентна в некоторых вопросах, поэтому было вынесено решение о невозможности выполнения ею своих профессиональных обязанностей.

**– Но ведь у нее огромный профессиональный стаж, немало успешных дел!**

– Я знаю об этом. И, к моему удивлению, она не смогла ответить на элементарные вопросы!

Прежде чем задавать вопросы, мы прошлись по нарушениям, которые она допустила, – они были выявлены в ходе плановой проверки Минской городской коллегии адвокатов. И нарушения не мелкие, а весьма значительные. Например, как она могла оказывать юридическую помощь клиенту без его подписи в договоре на оказание такой помощи?

**– А клиент возражал? Она защищала его насильно и он жаловался? Или это просто небрежность – не успели оформить документ, бывает же такое?**

– Дело в том, что если нет подписи на договоре одной из сторон, то нет и договора! И адвокат не имеет права по такому договору оказывать юридическую помощь. В законе четко написано, с какого момента оказывается клиенту юридическая помощь – с момента заключения договора. В этом смысле все должно быть безупречно.

У Бахтиной были выявлены и другие нарушения, среди которых, например, отсутствие нумерации корешков ордеров.

**– Но это организационные моменты. Разве это влияет на ее профессионализм как адвоката?**

– Это вопросы, касающиеся финансовой дисциплины, – договор, ордера. А вы знаете о том, что финансовые нарушения – это грубое нарушение законодательства, которое влечет прекращение действия лицензии?

Все нарушения, которые были выявлены в ходе проверки, мы озвучили Анне Бахтиной. И в целом она их признала и сказала, что действительно их допустила.

**– Бахтина не подписала аттестационный лист. По ее словам, он был не заполнен.**

– Это ее право. Лист был заполнен, члены комиссии его подписали. Никаких проблем здесь нет.

**– А мотивировочная часть?**

– В листе изложено все, что необходимо. Мы предъявили Бахтиной документ для ознакомления, она его прочла и сказала, что не желает подписывать.

**– В интервью нашей газете Бахтина подчеркнула, что не подписала лист потому, что там не было указано, сколько членов комиссии проголосовали за и против, не были указаны мотивы, по которым ее признали профнепригодной.**

– Прочитав, что там написано, Бахтина заявила: подписывать не буду, потому что считаю решение комиссии незаконным. Мы не имеем права ее принуждать. О том, что случилось, был составлен соответствующий акт.

**– Николай Михайлович, есть мнение, что решение о лишении лицензии Бахтиной политически мотивировано. Она защищала многих оппозиционных деятелей, должна была представлять интересы одного из обвиняемых в суде по громкому делу «Белого легиона»…**

– О политике мы вообще речь не вели! Комиссия проверяет только профессиональные качества адвоката, его возможность оказывать качественную юридическую помощь. Когда Бахтиной озвучили нарушения, она их признала. И мы проверили, знает ли она действующее законодательство. Причем мы уточнили, какая у нее специализация. Потому что сейчас гуляет мнение, что ей стали задавать вопросы по всем областям права. Она в уголовном праве и гражданском процессе ориентируется как рыба в воде! И мы задавали ей вопросы по ее специализации. У нее спросили о новациях уголовного законодательства, и были поражены, что она не ответила. Второй вопрос, на который она не ответила, – лицензионные требования, предъявляемые к адвокату. Это те вопросы, которые знает каждый адвокат в обязательном порядке!

**– Может, волновалась? Она рассказывала, что выходила пить сердечные таблетки…**

– Волноваться адвокату с таким огромным стажем работы?..

Адвокат должен в обязательном порядке следить за изменениями действующего законодательства. Если этого не делать, то качество оказания юридической помощи будет страдать.

Комиссию интересуют не политические взгляды Бахтиной и ее клиентов, а лишь ее профессиональные качества.

**– А почему засекречен персональный состав квалификационной комиссии?**

– В состав комиссии входят по одному представителю от территориальных коллегий адвокатов (их семь), по одному представителю от Верховного суда и Генпрокуратуры, пять представителей Минюста и два представителя от научных организаций. Важно, чтобы был кворум – две трети от состава. На этой комиссии кворум был, присутствовали 14 человек. И напротив каждого стояли таблички с именами. Все аттестуемые и претенденты на получение адвокатской лицензии знают состав этой комиссии. Никто ничего не скрывает.

**– А можете назвать имена членов комиссии?**

– Спросите у любого адвоката, вам скажут.

**– Николай Михайлович, как вы относитесь к международному резонансу дела Анны Бахтиной? Правозащитники обратились к спецдокладчику ООН по вопросу о независимости судей и адвокатов Монике Пинто с просьбой обратить пристальное внимание на ситуацию с давлением на адвокатов в Беларуси…**

– Конечно, мне не все равно, есть некоторые переживания. Однако я анализировал эту ситуацию и считаю, что позиция квалификационной комиссии в данном случае правильная. Я, кстати, сам голосовал за прекращение лицензии Анны Бахтиной.

**– А сколько человек проголосовало за и против аттестации Бахтиной?**

– Если Бахтина будет обжаловать решение комиссии, мы суду эту информацию предоставим.

**– Так какой здесь секрет?**

– Вся информация будет озвучена в суде.

**– Николай Михайлович, поскольку мы с вами говорим о том, что адвокаты должны быть образцом безупречности, задам еще один, наверное, не очень приятный вопрос. В интернете была информация о том, что вы в бытность первым заместителем прокурора Минска задерживались при попытке получения крупной взятки. Подробностей не было, но информацию о вашем увольнении тогда подтвердил генпрокурор…**

– Действительно, я долго работал в органах прокуратуры. Но задержаний и уголовных дел не было. И быть не может! Я принял решение уйти из генпрокуратуры, и был уволен по соглашению сторон.

**– Так был какой-то коррупционный скандал или нет?**

– Нет. Были определенные разногласия с тогдашним генеральным прокурором. Были вопросы, на которые мы смотрели по-разному.

Вы же понимаете, что если бы было что-то криминальное, меня не назначили бы заместителем министра юстиции.

**– Да ладно! У нас человек, обвиненный в коррупции и приговоренный Верховным судом к отбыванию наказания в колонии, был помилован президентом и назначен гендиректором МАЗа! Да и другие яркие примеры есть…**

– Поверьте, если бы в моей биографии был такой штрих, я здесь не работал бы.

Понимаете, на каждой работе есть свои нюансы. Так было и у меня в Генпрокуратуре. И некоторое время я действительно был без работы – мне нужно было отдохнуть, подумать. А потом я набрался сил и вернулся на госслужбу…

ЛОБ В ЛОБ



## Анна БАХТИНА: «Не хочу, чтобы детям и внукам было за меня стыдно…»

*Адвокат Анна Бахтина намерена в суде отстаивать свою лицензию и доброе имя.*

– С результатами проверки, которую проводили накануне аттестации, меня сразу не ознакомили, руководство юрконсультации сказало, что в отношении меня нарушений не выявлено, – *говорит Анна Бахтина*. – Если бы меня вовремя проинформировали, я имела бы возможность принести свои возражения на результаты проверки. А так через месяц мне сказали написать объяснения и тогда же дали возможность ознакомиться с актом проверки. Конечно, я признала допущенную мной невнимательность при выполнении инструкции Минюста.

Что касается отсутствия подписи клиента на одном из договоров, то я считаю, что это никак не связано с моей профессиональной деятельностью. Согласно Гражданскому кодексу, договор считается заключенным, если между сторонами достигнуто соглашение по всем существенным условиям договора.

На заседании комиссии я просила объяснить, как отсутствие подписи клиента влияет на мои профессиональные качества адвоката, но ответа так и не получила.

Кстати, до сих пор у меня нет на руках и решения квалификационной комиссии о моей профессиональной квалификации. Когда мне предложили подписать аттестационный лист, там почти все графы были не заполненными, хотя в положении об аттестации четко прописано: решения об отказе в аттестации должны быть мотивированы. Я обратила на это внимание председателя комиссии и попросила комиссию заполнить лист. Председатель сказал: вам это дошлют. Естественно, я отказалась подписать такой документ. Сегодня мне самой очень интересно, что там напишут…

Что касается нумерации корешков ордеров, то такого нарушения у меня проверкой вообще не выявлено! Каждому адвокату выдается уже пронумерованная и прошитая ордерская книжка, за которую мы расписываемся в юридической консультации. И никогда адвокат не занимается нумерацией ордеров!

Члены квалификационной комиссии задавали мне вопросы по отраслям права. Однако вопросов по моей специализации не было вообще! Член комиссии Турко спросил у меня лишь, когда были внесены последние изменения в УК и УПК (не какие, а именно когда!). Я сказала о последних мне известных, он уточнил, что это не так, что последние изменения были внесены 6 сентября. За шесть дней до моей аттестации! Председатель комиссии очень удивился моему ответу, и я пояснила, что месяц была в отпуске за пределами страны и обязательно ознакомлюсь с изменениями в законодательстве.

Аттестация длилась полтора часа. И в течение всего этого времени я стояла. Примерно через час я почувствовала себя нехорошо – у меня ишемическая болезнь сердца, в течение нескольких лет я ежедневно принимаю бета-блокаторы. Я вышла принять таблетки, от которых очень сушило во рту, и я уже не могла отвечать на вопросы, иначе пришлось бы вызывать «скорую»…

Я обязательно пойду в суд и буду отстаивать свои права. Я борюсь не столько за то, чтобы иметь право работать. Я хочу, чтобы моим детям и внукам не было за меня стыдно.

**Марина КОКТЫШ.**

РАКУРС

## Каб скончыць будаўніцтва спецбальніцы, не хапае 5 мільёнаў долараў?

Амаль такая сума – 9,6 мільёна беларускіх рублёў – па рашэнні дэпутатаў Мінскага гарадскога Савета будзе дадаткова выдзелена ў бягучым годзе на ўзвядзенне медыцынскага клінічнага цэнтра ў Ждановічах.

Там, як вядома, будуецца спецбальніца для чыноўнікаў. І да канца гэтага года медцэнтр павінен быць уведзены ў эксплуатацыю. Хаця, варта адзначыць, што ў 2014 годзе, калі стала вядома пра планы такога будаўніцтва, называўся іншы тэрмін яго заканчэння – май 2016-га. Пазней ён быў перанесены на снежань 2017 года. То бок хібы здараюцца нават там, дзе работы праходзяць пад наглядам Галоўнага ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Кіраўніцтва спраў прэзідэнта.

Першапачаткова арыенціровачны кошт медыцынскага аб'екта ў Ждановічах складаў 100 мільёнаў еўра. З дзяржбюджэту планавалася вылучыць толькі 15% ад яго кошту, астатнія сродкі – гэта доўгатэрміновыя замежныя крэдыты.

Але, відаць, грошай, не хапіла. 9,6 мільёна беларускіх рублёў, напэўна, пойдуць на аздобныя работы, таму што закупка сучаснага медыцынскага абсталявання – гэта зусім іншы артыкул выдаткаў. Сёння адзін сучасны нямецкі тамограф каштуе каля 2 мільёнаў долараў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## У Бабруйску збіраюць грошы на рамонт дзіцячай бальніцы

*Бабруйскі гарвыканкам заклікае гараджан і грамадскія аб'яднанні ўключыцца ў дабрачынны марафон.*

На рэканструкцыю дзіцячай бальніцы патрабуецца 8.156.000 рублёў, альбо крыху больш за 4 млн долараў. Але ж акрамя капітальнага рамонту с заменай усіх інжынерных сетак медустанове патрабуецца і новае абсталяванне: для эндаскапічных даследаванняў і ультрагукавой дыягностыкі, стэрылізацыйная апаратура, а таксама сучасны рэанімабіль.

Бабруйскі гарвыканкам заклікае гараджан і грамадскія аб'яднанні ўключыцца ў дабрачынны марафон.

У філіяле №703 ААТ АСБ «Беларусбанк» адкрыты дабрачынны рахунак BY91 AKBB 36421009023547100000, БИК AKBBBY21703, на які кожны можа перавесці пасільную грашовую дапамогу.

Бальніца разлічвае, што за грошы, сабраныя падчас дабрачыннай акцыі, зможа набыць новы рэанімабіль.

Дарэчы, у бухгалтэрыі бальніцы Naviny.by паведамілі, што на раніцу 15 верасня на дабрачынным рахунку было сабрана 2228 рублёў. Плюс яшчэ 980 рублёў пералічылі з асабістых сродкаў работнікі Бабруйскага гарвыканкама.

ПАМЯЦЬ

# Максім Танк: такім ён быў…

*17 верасня споўнілася 105 гадоў з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Танка (Яўгена Іванавіча Скурко).*


Courtesy Photo

Максім Танк скончыў пачатковую польскую школу, вучыўся ў Вілейскай рускай і ў Радашковіцкай беларускай гімназіях, з апошняй быў выключаны за ўдзел у школьнай забастоўцы. Потым вучыўся ў віленскіх беларускай, рускай гімназіях. У 1927 г. уступіў у камсамол і пачаў актыўна ўдзельнічаць у падпольным руху. Працаваў інструктарам ЦК камсамола Заходняй Беларусі (1932–1933), вёў рэвалюцыйную дзейнасць на Віленшчыне і Навагрудчыне. З жніўня 1933-га да жніўня 1934 г. і з верасня да снежня 1934 г. сядзеў у віленскай турме «Лукішкі». Працаваў у легальным і падпольным камуністычным друку. У 1945–1948 гг. – літаратурны рэдактар часопіса «Вожык», у 1948–1966 гг. – галоўны рэдактар часопіса «Полымя», з 1966 г. – першы сакратар, а ў 1971–1990 гг. – старшыня праўлення СП БССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР (1969–1989) і БССР (1947–1971), сакратар праўлення СП СССР (з 1966), старшыня Вярхоўнага Савета БССР VI–VII скліканняў. Акадэмік АН БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я.Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я.Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978), Літаратурнай прэміі імя А.Фадзеева (1980).

### Не любіў юбілеі

Максім Танк лічыў іх вясёлай рэпетыцыяй пахавання: *«Сёння іх адзначаюць толькі графаманы ды хворыя на амбіцыі».*

Быў прыхільнікам фільмаў жахаў і меладрам. Любіў хадзіць на паляванне.

### Меў прыгожы почырк

А таму мог нават падрабляць дакументы. Скончыўшы Віленскую рускую гімназію імя А.Пушкіна, *«унёс лёгкія каліграфічныя змены»* ў свой вучнёўскі білет, сапраўдны да 1 верасня 1932 года, *«у выніку – дата падоўжылася да 1 верасня 1933 года».*

Лічыў, што Біблію трэба ўключыць у школьную праграму, нягледзячы на тое, што не верыў у Бога: *"Я вывудзіў з яе мора легенд і паданняў..."*

### Абараняў калег

*"Паводле слоў Ларысы Геніюш, Максім Танк – «казачны прынц» беларускай літаратуры,* – пісаў пра Танка драматург Васіль Дранько-Майсюк. – *Менавіта дзякуючы яго спрыянню, аўтарка «Споведзі» пачала зноў друкавацца; менавіта ягоны ліст палепшыў лагерныя ўмовы Пятра Бітэля, перакладчыка «Пана Тадэвуша»; яшчэ ў 1948-м годзе Танк спрабаваў надрукаваць творы другога сталінскага вязня – Барыса Мікуліча; спрыяў Зянону Пазьняку, калі таго выганялі з Тэатральнага інстытута. Ён не любіў ўмоўнасцяў і пафасу".*

### Падабаўся жанчынам

Многія ў яго былі проста закаханы. Вядомы факт: калі пасля вайны Максім Танк і група беларускіх пісьменнікаў паехалі ў Варшаву, то Аркадзь Куляшоў вельмі зайздросціў сябру, калі бачыў, што таго дамагаецца мясцовая зорка аперэты. Але Танк шчыра кахаў толькі адну жанчыну – сваю жонку Любу...

Максім ТАНК

## Родная мова

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц.
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, –
Ты выткана, дзіўная родная мова.

Няма на зямлі таго шчасця і гора,
Якога б ты нам перадаць не магла.
Няма такіх нетраў, глыбокага мора
І гор, праз якія б ты не правяла
Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння
стаіць акрываўлены вораг з пятлёй
Над спаленай хатай, над родным загонам,
Над будучыняй і песняй маёй –
Над тым, што было і што век будзе вольным.

Народ пранясе цябе, родная мова,
Святлом незгасальным у сэрцы сваім
Праз цемру і годы змаганняў суровых.
Калі ж ападзе і развеецца дым
І нівы васкросшыя закаласяцца, –
Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,
Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,
Цымбалам дасі іх сарэбраны гром
І вусны расквецііш усмешкай дзіцяці.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Пасля юбілею Аляксандр Мядзведзь трапіў пад кропельніцу

*Трохразовы алімпійскі чэмпіён па вольнай барацьбе распавёў, як ён адзначыў у мінулыя выхадныя сваё 80-годдзе.*



– Свята прайшло проста феерычна, – кажа Аляксандр Васільевіч. – Каля 200 гасцей прыйшлі мяне павіншаваць у рэстаран атэля "Хілтан". Два дні святкаванняў я пратрымаўся, але адразу пасля выхадных адправіўся ў бальніцу пад кропельніцу. Грыпозны стан…

**– Столькі людзей сабраць у рэстаране – напэўна, дорага каштуе.**

– Адно можна сказаць: на сваю пенсію ўсіх не накарміў бы. Але ў мяне вельмі шмат сяброў, якія маюць грошы, і яны вырашылі на дабрачыннай аснове дапамагчы ў правядзенні юбілею. Прыехалі мой легендарны сябар Аляксандр Карэлін, дагестанскі барэц Бувайсар Сайціеў, які зараз з'яўляецца дэпутатам Дзяржаўнай думы… Увогуле, было вельмі шмат знакамітасцяў, нават некаторыя амбасадары прыйшлі павіншаваць.

**– Незвычайныя падарункі былі?**

– Шчыра кажучы, некаторыя да гэта часу не разбіраў, не знайшоў пакуль часу. Але вельмі спадабалася пазалочаная шабля, якую падарылі дагестанцы.

**– Не так даўно вялікі рэзананс выклікала інтэрв'ю, дзе вы быццам заявілі, што атрымліваеце зусім малую пенсію – 130 рублёў…**

– Відаць, журналіст няправільна мяне зразумеў. А пенсія ў мяне, як у звычайнага беларускага грамадзяніна, – 320 рублёў.

**Алесь СІВЫ.**

РЭГІЁН

# Адзначылі 610-годдзе Сынкавіцкай царквы



Архіепіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі Арцемій правёў літургію ў Сынкавіцкім храме, які 16 верасня адзначыў сваё 610-годдзе. Затым прайшоў хросны ход. Для святочных урачыстасцяў побач з царквою была ўстаноўлена сцэна, на якой адбыўся канцэрт з удзелам хораў Гродзенскай епархіі і Сынкавіцкай царквы, ансамбляў "Аксіёс" і "Арнамент", салістаў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра.

Мерапрыемства ў Зэльвенскім раёне наведалі сотні вернікаў з усёй Беларусі.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

## А ў месяцы верасні

Словы і музыка народныя

А ў месяцы верасні
Выпала пароша…
Дзед бабу палюбіў,
Што баба хароша. } 2 разы

І сляпая, і крывая,
Яшчэ к таму злая,
І крычыць, і бурчыць,
Проці дзеда не змаўчыць. } 2 разы

– Убярыся, бабка,
У новае белле.
Тады пойдзем, бабка,
З табою на вяселле. } 2 разы

Узяў дзедка бабку
За белую ручку.
Ды спіхнуў дзед бабку
З моста ды ў рэчку. } 2 разы

– Цяпер, бабка, кайся,
Трошкі пакупайся…
А як бабка узнырне,
Дык дзед кіем папіхне. } 2 разы

Прыйшоў дзед дадому
Ды й пачаў бажыцца:
– Ей богу, далібог,
Не буду жаніцца!.. } 2 разы

Адумаўся дзедка,
Ды ўспляснуў у ладкі:
– Калі буду жыў-здароў,
Пайду шукаць бабкі!.. } 2 разы

РЭГІЁН

# Кітайская мова ў Полацкім універсітэце

*Заняткі на курсах пачнуцца ўжо з 1 кастрычніка.*

Гэта стала магчымым дзякуючы сумеснаму праекту Полацкага ўніверсітэта і Інстытута Канфуцыя (Ханьбань). Нядаўна паміж дзвюма ўстановамі адукацыі было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве.

Заняткі будуць праводзіцца два разы на тыдзень па тры акадэмічныя гадзіны. Поўны кошт навучання складзе 140 рублёў (аплата ў тры этапы). Для студэнтаў і супрацоўнікаў ПДУ прадугледжана зніжка – 25 працэнтаў. Што тычыцца запатрабаванасці, то як паведамілі «Народнай Волі» ў ПДУ, магчымасць запісацца на курсы яшчэ ёсць.

**Васіль КОРЗУН.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Отеки ног

*Многие люди нередко сталкиваются с отеками нижних конечностей, особенно этот неприятный симптом ощущается во второй половине дня, а к вечеру это даже видно невооруженным глазом. Бывало ли у вас так, что вы приходите домой после тяжелого дня, снимаете туфли или босоножки, а на месте перемычек от обуви на ногах остаются следы, похожие на вмятины? Это и есть признак отечности.*

### Причины отеков

Что представляет собой отек? Это накопление жидкости в межкапиллярном пространстве, в результате чего увеличивается объем ткани. Отеком могут сопровождаться различные заболевания, хотя и не всегда, но игнорировать данный симптом нельзя. Причины могут быть связаны с серьезными заболеваниями.

**Варикозное расширение вен.** Иногда может отмечаться более выраженный отек на одной ноге. Больные жалуются на то, что отечность появляется ближе к вечеру, а утром пропадает.

**Заболевания почек.** При болезнях почек опухают обе ноги, обычно в первой половине дня, при этом пациент не чувствует боли или зуда. Если нарушена работа почек, то можно заметить и появление мешков или темных кругов под глазами. У больного есть проблемы с мочеиспусканием.

**Заболевания кишечника** – еще одна причина. Проявляется точно так же, как и при почечной недостаточности. Исключением является лишь то, что с мочеиспусканием все в порядке.

**Сердечная недостаточность.** Ноги отекают симметрично, в большинстве случаев после долгого пребывания в вертикальном положении или при сильной физической нагрузке. Ткани становятся плотными. Если надавить на кожу и убрать палец, то ямка довольно долго не исчезает. Если параллельно появились одышка, бледность кожи и тахикардия, стоит обратиться к врачу.

**Гормональные нарушения.** Гормональный сбой – еще один фактор риска. Например, если щитовидка вырабатывает слишком мало гормонов, в крови накапливаются особые вещества, заставляющие ткани удерживать воду. «Гормональные» отеки чаще всего появляются на ногах. На ощупь они плотные: если нажать, след от пальца не остается. Помимо отечности возникают другие симптомы – прибавка в весе, запоры, редкий пульс, повышенная сонливость. Без эндокринолога вам не справиться: гормоны – дело тонкое. Поэтому ни о каком самолечении не может идти и речи.

**Нарушение лимфатического оттока (лимфедема).** Отек плотный, возникает вечером и не проходит к утру. Сначала поражается голеностопный сустав, затем голень, иногда и колено. Потом отекает и другая нога, но не так сильно. Затягивать с посещением флеболога не стоит. «Слоновость» – это последняя стадия заболевания.

### Рассмотрим другие причины:

1.Алкогольная зависимость – нарушает работу почек и печени, а значит, жидкость плохо выводится из организма.

2.Употребление в пищу большого количества соли, которая имеет свойство задерживать жидкость.

3.Прием некоторых лекарств также препятствует нормальному выведению из организма воды.

4.Привычка носить тесную обувь или высокий каблук приводит к нарушению кровообращения, а значит, к возникновению отеков ног.

5.Большая нагрузка на ноги, например, при избыточном весе или у тех, кто занимается легкой атлетикой.

6.Во время беременности и месячных у женщин часто застаивается жидкость в организме.

7.Жаркая погода.

### Почему летом усугубляется припухлость?

Наши сердце и почки летом подвергаются огромной нагрузке. Основная задача этих органов во время сильной жары – не дать нам перегреться. Если температура воздуха поднимается выше тридцати градусов, наше тело начинает выделять огромное количество пота, который, выступая на коже, охлаждает нас.

Сердце и почки являются «главнокомандующими» этого процесса. Они отвечают за циркуляцию крови и жидкости, когда наше тело сильно греется. В некоторых случаях эти органы просто не справляются со своей работой.

При высокой температуре окружающей среды сосуды расширяются, а клапаны, которые выталкивают кровь обратно к сердцу, работают неслаженно. Это приводит к застою в венах, что и вызывает отечность ног.

### Как себе помочь?

Нужно выполнять три необходимых условия: сократить употребление соленого, немного уменьшить количество выпиваемой жидкости и делать массаж ног.

**Соленая пища.** Возможно, вы скажете, что и так не употребляете много соли. Но, если подумать хорошенько, может оказаться, что это не так. Что относится к соленой пище? Это консервы, соленья, чипсы, колбаса и полуфабрикаты. Все эти продукты содержат огромное количество натрия, а он задерживает жидкость в организме.

**Обильное питье.** В жаркую погоду очень трудно отказаться от бутылочки лимонада. Когда мы потеем, то теряем до литра воды за час, поэтому пить просто необходимо, чтобы не перегреться. Но лучше пить обычную воду, чем напитки с сахаром. Если уж вы пьете много, то тем более откажитесь от соленого, чтобы жидкость свободно выходила из тела, а не задерживалась в нем. Избегайте резкого сокращения выпитого, иначе ваш «хитрый» организм станет запасаться жидкостью.

**Ежедневный массаж ног** – вот что поможет улучшить циркуляцию крови в венах ног. После трудного дня лягте на кровать, приподнимите ноги, подложив под них валик или подушку. Отдохните так пять-десять минут, а после этого немного помассируйте стопы и икры, чтобы разогнать кровь. Хорошо помогают прохладные ванночки для ног.

Массаж при отеке по отсасывающей методике, начиная в направлении от бедра к тазобедренному суставу, с каждым движением захватывая все более удаленные участки ноги. Таким образом сначала прорабатывается бедро, которое освобождается от застойных явлений, а затем все ближе к колену, колено, голень и стопа. Все движения производятся в сторону ближайших лимфоузлов.

### Народные способы лечения отеков ног

Лечебные ванночки для тех, у кого отекают и болят ноги в жару:

* с морской солью (60 г соли на литр воды) на 15 минут;

* с поваренной солью (60 г соли на литр воды) на 15 минут;

* с экстрактом хвои (40–60 г экстракта на литр воды) на 15 минут;

* с холодной водой на 5 минут (после ванночки помассировать ноги легкими щипками);

* с сухой горчицей (20 г на литр воды) на 10 минут.

Внимание: у любых ванночек есть ряд противопоказаний – перед применением проконсультируйтесь с врачом!

**Мочегонные средства.** Если отекают ноги в сильную жару, организму нужно помочь избавиться от лишней жидкости. Для этого хорошо использовать отвары из цветов липы, березовых листьев и почек, настой из ягод и коры бузины, экстракт полевого хвоща.

* Из листьев белой березы: 1–2 ст ложки листьев настаивают в 500 мл кипятка, пить по полстакана жидкости до пяти раз в день.

* Из петрушки огородной: 1 ст. ложку петрушки залить 2 стаканами кипятка, пить в течение дня по столовой ложке.

* Из льна: взять 4 ст. л льняного семени на 1 л воды, кипятить 10–15 мин., кастрюлю накрыть и поставить в теплое место. Дать настояться 1 час. Можно не процеживать. Для вкуса добавить лимонного или другого фруктового сока. Пить по ½ стакана через 2 часа 6–8 раз в день. Лучше пить настой горячим. Курс лечения 2–3 недели.

*Смешать по 0,5 стакана свежевыжатого морковного сока, сока огурца и сока 1 среднего лимона. Разделить напиток на 3 приема и пить 3 раза в день, разбавляя порцию наполовину теплой кипяченой водой.

**Соляные примочки** – очень эффективное средство при отеках. Надо растворить в 5 литрах холодной воды 500 г соли (поваренной), намочить в этой воде махровое полотенце, отжать и положить на поясницу. Когда полотенце нагреется, снова намочить, отжать и приложить – и так до 10 раз. Отеки в этом случае спадают, потому что начинается сильное мочеотделение.

**Растирания.** Измельченную головку чеснока залить 200 мл кипятка, настоять, охладить и процедить. Кашицей натереть отечные участки, смыть прохладной водой через полчаса.

Итак, стоит ли беспокоиться по поводу отеков? Специалисты утверждают, что отечность нижних конечностей, спровоцированная высокой температурой воздуха, – явление не только не опасное, но и вполне естественное. Через определенный промежуток времени такие виды отеков ног исчезают самостоятельно, поэтому не требуют ни медицинской помощи, ни какого-либо специфического лечения.

Однако обеспокоиться тем, что отекают ноги в жару, все же стоит, ведь застой жидкости в тканях является свидетельством того, что в организме имеет место нарушение кровообращения и водно-солевого обмена.

Не стоит пугаться и неравномерности отеков ног в жару, когда на одной конечности отечность более выражена, чем на другой. Такое явление вполне можно объяснить состоянием вен на ногах (например, при варикозе), и оно также считается вариантом нормы.

Отек ног будет серьезным поводом для беспокойства лишь в том случае, если даже после принятых мер (массажа, отдыха, компресса) он будет держаться еще длительное время и сопровождаться рядом других симптомов (болью, покраснением, отеками других частей тела). Возможно, понадобится консультация терапевта, флеболога, нефролога или кардиолога.

### На заметку

Помните очень простое правило: если вы ведете сидячий образ жизни или вынуждены на работе подолгу стоять, обязательно разминайте ноги – хотя бы один раз в час. Сотрудникам офисов рекомендуется регулярно вставать, прогуливаться или делать простые упражнения для тонуса мышц нижних конечностей прямо за столом. Например, вытяните ноги, потяните носок на себя – от себя. Повторите несколько раз. Даже такое простое упражнение к вечеру снизит ощущение тяжести в конечностях.

АСОБА

# Аляксандр ГАЗАЎ: «Ёсць яшчэ порах!»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" наведаўся ў вёску Калодчына ў госці да алімпійскага чэмпіёна па кулявой стральбе.*

Вёска Калодчына Вілейскага раёна невялікая – каля 60 дамоў. Але добраўпарадкаваная. Заасфальтаваная дарога, на ёй – "ляжачыя паліцэйскія".

*"Васільіч дапамог",* – распавядаюць мне мясцовыя жыхары і паказваюць дом алімпійскага чэмпіёна, які больш за 20 гадоў таму з'ехаў ад гарадской мітусні. Гаспадар сустракае і за кубкам гарбаты пачынае з успамінаў пра маладыя гады...

– Калі жыў у Маскве, побач з нашым домам быў цір ДТСААФ. Усе пасляваенныя дзеці хацелі навучыцца страляць, а таму той самы цір мы рэдка абміналі. Да таго ж бацька быў ваенны, захапляўся паляваннем, і знаёмства з вінтоўкай для мяне не было чымсьці экстраардынарным. Сярод паляўнічых гаспадарак праводзілі спаборніцтвы па стэндавай стральбе, я браў у іх удзел ужо ў 13-гадовым узросце. Пазней запісаўся ў спартыўную секцыю па кулявой стральбе, так усё і пачыналася.

**– Патрапіць у зборную Савецкага Саюза, відаць, было зусім не проста…**

– Канкурэнцыя – неверагодная! Уявіце, колькі ў Саюзе было рэспублік, і паўсюль развіты стралковы спорт. Працаздольнасць у мяне была на ўзроўні, але знаходзіліся і тыя, хто ў зборную марыў патрапіць праз закулісныя гульні. Напярэдадні Алімпіяды-1976 у Манрэалі я пяць адборачных спаборніцтваў выйграў, разам з Сашам Кедзяравым мы і "прайшлі" на Гульні. Але ў каманду яшчэ ўзялі і запаснога стралка – Валерыя Пастаянава. Апошні сябраваў з галоўным трэнерам зборнай Юрыем Ратнікавым, і вось тут пачалося самае цікавае. У Маскве заяўка на Алімпіяду была афармлена на Газава і Кедзярава, але Ратнікаў аформіў іншую, з якой мяне выключыў. Мабыць, таму, што я яго не запісаў сваім трэнерам. А заяўку абавязкова павінен быў падпісаць прадстаўнік беларускай стралковай каманды Віктар Лівінцаў. Віктар Ільіч добра ведаў, колькі я зрабіў для Беларусі, а таму пайшоў на хітрыкі: у той момант, калі неабходна было падпісваць паперу, проста недзе схаваўся. Яго, натуральна, не знайшлі, сілу набыла старая заяўка, і мы з Кедзяравым патрапілі на Алімпіяду. Вось такая была канкурэнцыя.

**– Але на той момант вы былі мацнейшым?**

– Безумоўна, я ж даказваў гэта сваімі вынікамі. Трэніраваўся ў дзень па 10 гадзін.

**– А ці праўда, што з вамі займаўся спецыяліст па нетрадыцыйнай медыцыне?**

– У зборнай Саюза быў доктар Віталь Георгіевіч Нікіфараў. Ён закончыў Кітайскі медыцынскі інстытут, 19 гадоў працаваў у Паднябеснай, дзе авалодаў рознымі методыкамі нетрадыцыйнай медыцыны. Безумоўна, праводзіў з намі заняткі, навучыў "адключацца". А для стралка ж псіхалагічная ўстойлівасць вельмі важная. У выніку я, напрыклад, мог адстраляць серыю і, каб не хвалявацца да наступнай стральбы, сядаў у крэсла і ўжо праз 2 хвіліны засынаў. Прачнуся праз 15 хвілін – свежы, як агурок.

**– Патронаў, мяркуючы па тым, што вы рабілі перад трэніроўкай з дзьмухаўцамі, не шкадавалі…**

– Гэтага дабра хапала. Але для маёй вінтоўкі "Вальтэр" патроны на Клімаўскім заводзе рабілі персанальна. Вінтоўка, да слова, была вельмі дарагая, падарыў мне яе сам Карл Вальтэр – заснавальнік вядомай нямецкай кампаніі, якая выраблялa зброю. Неяк падчас міжнародных спаборніцтваў акурат на п'едэстале і ўзнагародзіў ёй. Памятаю, праз пасольства хутка аформілі ўсе дакументы, і вінтоўку прывезлі дадому. Я каля чатырох гадоў з ёй "працаваў", Алімпіяду выйграў.

Дарэчы, калі я прачытаў даследаванні нямецкіх спецыялістаў аб хуткасці праходжання кулі ў ствале, разам з нашым вядомым канструктарам зброі Уладзімірам Разаронавым вырашылі скараціць ствол на "Вальтэры". Абрэзалі кавалак – стральба лепш пайшла. Спецыялісты зрабілі фальш-ствол, так што на спаборніцтвах ніхто нават і не заўважаў майго вынаходніцтва. Стралок са зборнай ГДР Петэр Хофман (зяць Карла Вальтэра), з якім мы былі ў сяброўскіх адносінах, неяк падышоў і кажа: "Не хачаш вінтоўку замяніць?" – "З задавальненнем!" Прывозіць мне новую, старую я аддаў Хофману. І калі ў кампаніі "Вальтэр" даведаліся пра маё ноу-хау, то ўжо праз тры месяцы яны сталі ўсе віды сваіх вінтовак выпускаць з такімі ствaламі.

**– У 46 гадоў ваша жыццё рэзка змянілася…**

– Так склалася сітуацыя. У 1992 годзе я звольніўся з працы, развёўся з жонкай. А яшчэ ў 1988 годзе набыў у вёсцы Калодчына Вілейскага раёна ўчастак зямлі з разваленай хаткай. Пабудаваў нармальны дом, таму пасля разводу ўжо было куды падацца. Кватэру пакінуў былой жонцы і дзецям, забраў толькі зброю, узнагароды, трафейны нямецкі акардэон "Вальтмайстар" і – на вёску. Паўтара года пражыў тут адзін, а пасля да суседкі прыехала дачка. Убачыліся мы з ёй, і з таго часу яна больш нікуды не з'язджала. Нашай дачцэ хутка ўжо 24 гады будзе.



АСАБІСТАЯ СПРАВА

**Аляксандр ГАЗАЎ** *нарадзіўся 17 чэрвеня 1946 года ў в.Брыкава Маскоўскай вобласці. Савецкі і беларускі стралок з вінтоўкі. Алімпійскі чэмпіён Гульняў-1976, неаднаразовы чэмпіён і рэкардсмен свету, Еўропы і СССР.*

**– Не складана было прызвычайвацца пасля горада да вясковага жыцця?**

– А мы тут ужо, як кажуць, добра абжыліся. У мяне свае возера з карпамі, сад, агарод. Агульная тэрыторыя – каля 60 сотак. Жонка каля 100 курэй трымае. Я разьбой па дрэве займаўся, на карабіны і стрэльбы рабіў вельмі добрыя прыклады, хаця зараз забаранілі гэтым займацца. А так паляўнічыя нярэдка звярталіся, бо зрабіць нармальны прыклад – гэта таксама мастацтва. Дарэчы, дрэва амерыканскага арэху спецыяльна з Масквы прывозіў, у Беларусі такога не знаходзіў.

*…Дом Аляксандра Газава – гэта таксама ў пэўнай ступені ўзор мастацтва, хаця, паводле яго слоў, у хуткім часе ён збіраецца пабудаваць яшчэ адзін паверх. Праектаваў дом сам, будавалі яго сваімі сіламі. На сценах – паляўнічыя трафеі, розныя скульптуры і карціны, якія выразаны з дрэва.*

– "На звера" хаджу рэгулярна, таму мяса ў доме хапае, – працягвае Аляксандр Васільевіч. – Праўда, на загоннае паляванне не езджу пасля аднаго выпадку, які здарыўся са мной. Аднойчы адправіўся паляваць з адным вельмі высокім чыноўнікам. Ён страляў па алені, а ледзь не пацэліў у мяне. Прабіў куртку, крыху апёк жывот. Замазаў я тады рану ёдам, перахрысціўся і запомніў тую дату – 10 кастрычніка 1986 года. І з таго дня даў сабе слова: "Больш на загон – ніколі ў жыцці!" І больш у такія гульні не гуляю.

Увогуле, у Германіі, каб стаць паляўнічым, трэба правучыцца шэсць месяцаў і здаць экзамен. Хоць адзін бал недабраў – ізноў плаціш і вучышся. Да таго ж там катэгарычна забараняецца ўжываць алкаголь, пакуль стрэльба не пакладзена ў сейф. А ў нас нярэдка бывае, што адразу пасля загону ўжо на капоце машыны "стол" накрываюць. У Германіі апошні няшчасны выпадак на паляванні быў, здаецца, у 2011 годзе, а ў нас штогод людзі гінуць.

**– Як кажуць, вока ў алімпійскага чэмпіёна яшчэ не замылілася?**

– І порах ёсць, і вока не замылілася. Мне 71 год, але нават акулярамі не карыстаюся. Не п'ю, не палю цыгарэты, вяду здаровы лад жыцця. За апошні сезон адстраляў 43 лісы, хаця з іх 12 былі лішайныя.

**– Аляксандр Васільевіч, кажуць, што вы паспрыялі таму, каб Дар'я Домрачава на Алімпіядзе ў Сочы заваявала тры залатыя медалі.**

– Перад апошнімі зімовымі Гульнямі патэлефанаваў мой вучань Саша Іваноў. У яго ціры і трэніравала стральбу Даша. Вось ён і звярнуўся да мяне з просьбай пратэсціраваць зброю Домрачавай. А ў яе вінтоўцы і на самай справе "пасадка" аказалася няправільная, таму не было пры стральбе кучнасці. Натуральна, давёў зброю да розуму і рады, што зрабіў свой невялікі ўнёсак у перамогу Дар'і. Яна мне, да слова, падарыла свой вялікі плакат з аўтографам.

**– Ведаю, што ў вёсцы вы паважаны чалавек – староста.**

– Старшыня мясцовага сельскага савета неяк папрасіла мяне, каб заняў гэтую ганаровую пасаду. Пагадзіўся, мне ж не складана. Шкада толькі, што адмысловай павязкі на руку не далі. *(Смяецца.)* Сачу, за тым, каб ва ўсіх двары былі добраўпарадкаваныя, але ў нас усе сумленныя людзі, так што ніякіх праблем няма.

Па ўсёй вёсцы асфальт паклалі, утойваць не буду, што гэта таксама мая заслуга. Звярнуўся ў раённую ДАІ, каб знакі абмежавання хуткасці ў Калодчыне зрабілі і "ляжачых паліцэйскіх" паклалі, але тады ніякім чынам на мой зварот яны не адрэагавалі. Прыйшлося ў Мінску з некаторымі знаёмымі пагутарыць, і на наступны дзень ужо ў 8 гадзін раніцы даішнікі званілі мне ў дзверы і пыталіся: "Дзе класці "паліцэйскіх"?" І знакі абмежавальныя таксама паставілі. Так што і я гэтую вёсачку люблю і паважаю, і мяне паважаюць. Мне тут з маёй сям'ёй утульна і спакойна…

**Алесь СІВЫ.**

*Вілейскі раён.*

ФУТБОЛ



## Вызначылася тройка лідараў

*Прайшлі матчы 22-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: "Дынама" (Мінск) – "Мінск" – 1:0, "Крумкачы" – "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – 0:3, "Віцебск" – "Гомель" – 1:0, "Днепр" (Магілёў) – "Гарадзея" – 2:2, "Нафтан" (Наваполацк) – "Нёман" (Гродна) – 3:2, "Слуцк" – "Дынама" (Брэст) – 1:0, "Славія" (Мазыр) – "Шахцёр" (Салігорск) – 0:3.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Мн) | 22 | 17 | 1 | 4 | 33–11 | 52 |
| Шахцёр | 22 | 15 | 5 | 2 | 35–13 | 50 |
| БАТЭ | 21 | 14 | 3 | 4 | 36–11 | 45 |
| Слуцк | 22 | 10 | 7 | 5 | 23–17 | 37 |
| Нёман | 22 | 10 | 6 | 6 | 30–22 | 36 |
| Тарпеда-БелАЗ | 22 | 9 | 8 | 5 | 31–18 | 35 |
| Віцебск | 22 | 10 | 5 | 7 | 26–23 | 35 |
| Дынама (Бр) | 22 | 8 | 7 | 7 | 32–23 | 31 |
| Гарадзея | 22 | 6 | 10 | 6 | 24–25 | 28 |
| Гомель | 22 | 6 | 6 | 10 | 18–20 | 24 |
| Днепр | 21 | 5 | 5 | 11 | 19–34 | 20 |
| Крумкачы | 22 | 4 | 8 | 10 | 20–33 | 20 |
| Мінск | 22 | 3 | 9 | 10 | 13–29 | 18 |
| Славія | 22 | 3 | 7 | 12 | 18–36 | 16 |
| Іслач | 20 | 4 | 3 | 13 | 14–31 | 8 |
| Нафтан | 22 | 3 | 4 | 15 | 11–37 | 8 |

**P.S.** *У табліцы не ўлічаны матч тура "Ісдач" (Мінскі раён) – БАТЭ (Барысаў), які адбыўся ўчора вечарам.*

ЗАКУЛІССЕ

## Зорны матч у Гродне

*Камандзе старшыні Гродзенскага гарвыканкама* ***Мечыслава Гоя*** *супрацьстаяла зборная артыстаў, журналістаў і спартсменаў Беларусі і Расіі. За гульнёй, якая прайшла 16 верасня, назіралі 5 тысяч гледачоў.*

За каманду кіраўніка Гродна выступалі не толькі вядомыя ў мінулым мясцовыя футбалісты, але і гродзенскія чыноўнікі, сярод якіх пракурор горада **Уладзімір Клішын,** кіраўнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама **Аляксандр Вярсоцкі**, першы намеснік кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Гродна **Сяргей Сарока,** трэнер ФК "Нёман" **Ігар Кавалевіч**. Супраць іх змагаліся **Аляксандр Глеб, Вадзім Галыгін, Улад Тапалаў, Сяргей Мінскі, Міхаіл Грабеншчыкоў, Гарык Багамазаў, Юрый Давыдаў, Віктар Зінчук, Яўген Булка, Іван Эйсмант, Тэнгіз Думбадзэ, Сяргей Крылоў і Аляксандр Скараходаў.**

Пасля двух таймаў па 30 хвілін лік быў 3:3, у сувязі з чым адбылася серыя пенальці, якая скончылася зноў жа з аднолькавым вынікам – 6:6.

Пасля футбола зоркі беларускай і расійскай эстрады зладзілі святочны канцэрт. "Зорны футбол" быў прымеркаваны да Дня горада, які ў Гродне будзе адзначацца 23 верасня. Увесь тыдзень у горадзе будуць ладзіцца разнастайныя мерапрыемствы.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Сусветныя рэкардсмены з Наваполацка

*Ваднальжнікам* ***Ганне Стральцовай*** *і* ***Мікіту Папакулю*** *ўручылі сертыфікаты рэкардсменаў свету ў скачках з трампліна за электрацягай.*

Ганна Стральцова і Мікіта Папакуль – выхаванцы наваполацкай ваднальжнай школы імя Геновых. Некалькі дзён таму ў Польшчы прайшла ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання «Лепшы спартсмен 2016 года».

На мінулых спаборніцтвах Ганна Стральцова ў скачках з трампліна за электрацягай паляцела на 50,4 метра. Мікіта Папакуль зафіксаваў вынік 65,5 метра. Ранейшы сусветны рэкорд быў усталяваны спартсменам са Славакіі і складаў 64,7 метра.

– *Калі ўстанаўліваеш рэкорд, дзяржава вылучае прэмію,* – сказала «Народнай Волі» Ганна Стральцова. – *На цырымоніі быў проста памятны сувенір за спартыўныя вынікі. Вядома, прыемна атрымліваць*




*такія ўзнагароды, асабліва праз год. Гэта натхняе на новыя дасягненні.*

Як мы паведамлялі раней, спартсменка з Наваполацка ўваходзіць у топ-7 наймацнейшых ваднальжніц свету ў скачках з трампліна і мнагабор'і.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

ШАХМАТЫ

## Абходны манеўр

Сваю задачу прапануе чытачам вядучы рубрыкі "Шахматы".

**Белыя:** Крс1, Лb7, Се4, пп. f5, g3 (5).

**Чорныя:** Крh5, пп. с2, с3, с4, g4, g5, h6 (7).

Мат у 4 хады.

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі (220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а) або на электронны адрас: vadim_ne67@mail.ru.

## «Брат на брата»

Гісторыя старажытнай гульні ведае нямала сем'яў, у якіх некалькі чалавек дасягалі грасмайстарскага ўзроўню ў шахматах. Дастаткова згадаць трох сясцёр Полгар з Венгрыі. Ёсць такія прыклады і ў Беларусі. Браты Сяргей і Андрэй Жыгалкі – міжнародныя грасмайстры, пераможцы і прызёры шматлікіх спаборніцтваў. Тым цікавейшыя паядынкі паміж імі ў афіцыйных турнірах. Прапануем увазе чытачоў партыю з сёлетняга чэмпіянату Еўропы ў Мінску.

**Сяргей Жыгалка – Андрэй Жыгалка**

1.d4 Кf6 2.Кf3 g6 3.Сf4 Сg7 4.е3 d6 5.h3 0–0 6.Се2 Кс6 7.0–0 е5 8.Сh2 Ке4 9.Кbd2 К:d2 10.Ф:d2 Фе7 11.с3 f5 12.Ке1 Фf7 13.Кd3 Се6 14.b4 Лаd8 15.Фс2 Сс4 16.b5 Ка5 17.de С:d3 18.С:d3 de 19.Лаd1 b6 20.Лd2 Лd6 21.Лfd1 Лfd8 22.Се2 Фе6 23.g4 Л:d2 24.Л:d2 Л:d2 25.Ф:d2 Кb7 26.Сf3 е4 27.Сd1 Кс5 28.С:с7 Се5 29.gf gf 30.Фd8+ Крg7 31.Фg5+ Крh8 32.С:е5+ Ф:е5 33.Сg4 Ф:с3 34.С:f5 Фg7 35.Ф:g7+ Кр:g7 36.Крg2 h6 37.Крg3 Крf6 38.Крf4 Кd3+ 39.Кр:е4 К:f2+ 40.Крf4 Кd1 41.Сd3 Кс3 42.Сс4 Ка4 43.е4 Кс5 44.е5+ Крg6 45.Крg4 Кd7 46.Сd3+ Крg7 47.Крf5 Кс5 48.Сс4 Крf8 49.Крf6 Ке4+ 50.Кре6 Кре8 51.Сd5, 1:0.

## Як беларус стаў чэмпіёнам Чэхіі

Сёлетні чэмпіянат Еўропы па рашэнні задач і эцюдаў праходзіў у сталіцы Латвіі пры 68 удзельніках. Перамог шматразовы чэмпіён свету Пётр Мурдзя з Польшчы. Мацнейшы беларускі рашальнік Аляксандр Булаўка фінішаваў шостым; у турніры бралі ўдзел таксама Мікалай Сігневіч, Аляксандр Міхалап і Васіль Зелянкоўскі. Беларуская зборная ў камандным заліку заняла восьмае месца. Затое на рахунку А.Булаўкі першае месца ў адным з дадатковых спаборніцтваў чэмпіянату (гэтак званым солвінг-турніры).

Праз нейкі час адбыўся чарговы этап Кубка свету па рашэнні – адкрытае першынство Ізраіля. Згодна з рэгламентам, турнір праводзіўся адначасова ў розных краінах, а потым былі падведзены агульныя вынікі. "Беларускі" этап праходзіў у Клічаве, на радзіме А.Булаўкі. У выніку ў агульным заліку (110 чалавек) Аляксандр – на сёмым месцы, Віктар Зайцаў – на 22-м, далей у турнірнай табліцы размясціліся яшчэ чатыры беларусы.

Таксама гэтым летам А.Булаўка выйграў адкрытае першынство Чэхіі па рашэнні, якое ладзілася ў горадзе Пардубіцэ. А на чэмпіянаце свету ў германскім Дрэздэне быў 13-м з 89 удзельнікаў.

## Юбілейны конкурс

Абвешчаны конкурс складання задач да 50-годдзя беларускага шахматнага кампазітара Віктара Зайцава. Спаборніцтва складаецца з пяці раздзелаў: 1) мат у 2 хады; 2) мат у 4–8 хадоў; 3) кааператыўны мат у 2 хады; 4) кааператыўны мат у 3 хады; 5) кааператыўны мат у 4–8 хадоў. Тэмы вольныя. У якасці суддзі выступае сам юбіляр. Кампазіцыі можна дасылаць да 31 снежня 2017 года на электронны адрас vvz55@mail.ru з пазнакай «Віктар Зайцаў – 50». Лепшыя задачы будуць адзначаны прызамі.

## Праверце рашэнні

Задача В.Зайцава ад 25 ліпеня рашаецца: 1.d4! (не праходзіць 1.f4? Лef3!). Калі пераставіць чорную ладдзю g3 на с3: 1.f4! (1.d4? Лed3!).

Першымі правільна адказалі Васіль Жуковіч, Алег Германовіч і Сяргей Цяльпук. Шэраг ранейшых задач рашылі Мікалай Шклярэўскі, Леанід Калодка. Дзякуем за дасланыя лісты таксама Альберту Літвінаву. Дзве свае задачныя спробы даслаў Алесь Заранок з г.Калінкавічы, але адна ўвогуле не рашаецца (1.Л:f7? Л:f7!), у другой – мат у адзін ход: 1.Сf6х

**Вадзім ЖЫЛКО.**



## Узаемадапамога

Дапамагу шматдзетным, маламаёмным абуткам, адзеннем і іншым чынам. Тэл. 8-029-191-11-87 (Velcom).

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 18.09.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 015 экз. Заказ № 3275.